Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# ГАНДЛЁВЫ БЮЛЕТЭНЬ

## НАРКАМУНУТГАНДЛЯ БССР

РЭДАКЦЫЯ І КАНТОРА
г. Менск,
Дом Урада,
левае крыло, 4 паверх,
комн. № 405.
Тэл. № 23-287.

№ 33-34 | Год выдання 1-ы | 25 снежня 1935 г. | № 33-34

## ЗА РАШУЧАЕ ПАЛЕПШАННЕ ГАНДЛЯ АБУТКАМ

Публікуемыя ў гэтым нумары Бюлетэня правілы гандля абуткам абавязваюць работнікаў абутковых магазінаў зусім інакш забяспечыць абслугоўванне совецкага спажыўца.

Шырокая класіфікацыя абутку па колеру, фасонах, матэрыялу, размерах, спосабах пашыўкі і інш.— патрабуе ад прадаўца абутковага магазіна папаўнення сваіх ведаў для таго, каб свабодна разбірацца ў багатым і разнастайным асартыменце гэтага тавара.

Гандаль абуткам, у адрозненне ад цэлага раду іншых тавараў, мае сваю спецыфіку, патрабуючы зусім іншай формы абслугоўвання спажыўца.

У сучасны момант гэта пытанне набывае асобую актуальнасць у сувязі з ростам матэрыяльных і культурных запатрабаванняў спажыўца, які становіцца больш трэбавацельным ў пытаннях якасці і асартымента тавараў.

Усё гэта абавязвае нашы магазіны арганізаваць больш культурнае абслугоўванне спажыўца. Аднак, наш гандаль абуткам страдае яшчэ радам недахопаў.

Нельга мірыцца з такім становішчам калі пакупнік абутку ў абутковым магазіне вымушан купляць шнуркі ў іншым галантарэйным магазіне, а крэм для абутку—у трэцім магазіне.

Таму ў абутковым магазіне, як правіла, павінны быць у продажу акрамя абутку і галош, таксама шнуркі, сцелькі, крэм, гузікі, пражкі для туфель, шавецкія шчоткі і інш.

Акрамя таго, зацверджаныя Саюзнаркамунутгандлем правілы гандлю абуткам рэкамендуюць у больш буйных магазінах арганізаваць прыёмку абутку ў пачынку і чыстку.

Такім чынам, у кожным магазіне павінен быць неабходны шавецкі інвентар для правядзення на месцы працуючага рамонту прадаваемага абутку.

Вялікая ўвага павінна быць удзелена пытанням якаснай прыёмкі абутку. Магазін павінен быць снабжаны стандартамі, а асобы, адказваючыя за прыёмку абутку, абавязаны праісці праверачныя іспыты (веданне стандартаў, інструкцый і т. д.).

Не меншае значэнне набывае пытанне хавання абутку. Як вядома, абутак адносіцца да групы прамтавараў, але не трэба забываць, што скура з'яўляецца таварам арганічнага паходжання.

Адсюль—тэмпература ў падсобным памяшканні магазіна можа хістацца ў межах ад 13 да 18 градусаў па Цэльсію.

Толькі такая тэмпература папярэджвае дэфармацыю фасона абутку, захоўваючы, такім чынам, якасць абутку.

Культурная пастаноўка гандля абуткам патрабуе таксама таго, каб магазіны былі снабжаны диванамі, крэсламі, скамейкамі, коўрыкамі, люстрамі і т. д.

Мы ў гэтых адносінах павінны пераняць практыку лепшых паказальных магазінаў Масквы, Ленінграда і Кіева і забяспечыць магазіны вымяральнымі прыборамі для дакладнага вызначэння размера абутку.

Такавы асноўныя мерапрыемствы, правядзенне якіх павінна забяспечыць культурную пастаноўку работы ў абутковых магазінах.

У справе рэалізацыі гэтых мерапрыемстваў неабходна кіравацца правіламі гандля абуткам, якія павінны стаць прадметам дакладнай і сур'ёзнай прапрацоўкі сярод работнікаў абутковых магазінаў.

Р.

---

## У НАРКАМУНУТГАНДЛІ БССР

◆ Да канчатковага зацверджання структуры перададай у веданне Наркамунутгандля гарадской сеткі БАКТ'а, пры Наркамунутгандлі БССР арганізаван „Белкультгандаль", на які ўскладзена кіраўніцтва сеткай БАКТ'а ў Менску, Віцебску, Гомелі, Бабруйску, Магілеве, Оршы і Барысаве. Дырэктарам Белкультгандаля часова назначан т. Прылуцкі.

◆ Наркамунутгандаль БССР выдаў спецыяльны загад аб разгортванні гандля мандарынамі. Усім гандлюючым арганізацыям прапанавана неадкладна заключыць дагаворы на пастаўку мандарынаў, падрыхтаваць памяшканні для добраякаснага хавання тавара. Гандаль мандарынамі павінен праводзіцца ва ўсіх прадуктовых магазінах. Вінаватыя ў ігнараванні гандля мандарынамі будуць прыцягвацца да суровай адказнасці.



# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

(Дадатак да пастановы Наркамунутгандля СССР ад 29 VIII/1935 г. № 822).

# ПРАВІЛЫ ГАНДЛЯ АБУТКАМ

## I. Агульная частка

1. Абутковыя рознічныя магазіны (спецыялізаваныя і змешаныя) павінны будаваць сваю работу на падставе культурнага абслугоўвання пакупніка, у адпаведнасці з павышанымі патрабаваннямі яго да якасці і асартымента абутку.

2. Абутковыя магазіны снабжаюцца ў цэнтралізаваным парадку праз вышэйстаячую гандлюючую арганізацыю і непасрэдна пастаўшчыкамі ў межах вылучаных магазіну фондаў. Звыш таго, гаспадарчаразліковыя магазіны абавязаны прымаць меры да атрымання дадатковых рэсурсаў гатовага абутку на месцах шляхам самазакупак.

3. Планы завоза абутку ў магазін павінны прадугледжваць устанаўліваемыя вышэйстаячай гандлёвай арганізацыяй нармальныя астаткі (запасы) у належным асартыменце і якасці.

4. Для больш поўнага абслугоўвання пакупнікоў дапасавана да іх запатрабаванняў і густу, магазін павінен прыняць меры праз вышэйстаячую гандлёвую арганізацыю да складання і перадачы прамысловасці папярэдніх заказаў, якія базіруюцца на вывучэнні попыта пакупніка.

5. Папярэднія заказы складаюцца з максімальнай дыферэнцыяцыяй асартымента. У асноўным гэтыя заказы павінны мець наступныя адзнакі:

а) **род абутку**—мужчынскі, жаночы, хлопчыкавы, недамерак, дзіцячы, маладзіцячы і гусарык;

б) **від абутку**—бацінак, поўбацінак, туфлі і т. д.

в) **матэрыял**—шаўро, хром і т. д.;

г) **размер;**

д) **растоўка;**

е) **колер**—чорны, каляровы;

ж) **фасон** калодкі, каблука, наска і т. д.;

з) **спосаб пашыўкі**—прышыўны,, рантавы і т. д.;

6. Акрамя абутку, абутковыя магазіны абавязаны праводзіць продаж галош і ўсіх прылад абутку, як-та: шнуркі, сцелькі, падпятачнікі, гузікі, банцікі для туфель, кручкі для ботаў, кручкі для зашпільвання гузікаў, рожкі, крэм, камні, шчоткі, бархатныя палоскі і рукавіцы для чысткі абутку і т. д.

7. У больш-менш значных абутковых магазінах (спецыялізаваных і змешаных) па паказанню мясцовых аддзелаў унутранага гандля арганізуецца прыёмка абутку ў пачынку і чыстку.

8. Магазін праводзіць мерапрыемствы па забеспячэнню правільнай растаноўкі рабочай сілы і ўшчыльнення рабочага дня работнікаў прылаўка, павышаючы пры гэтым якасць абслугоўвання спажыўца.

У гэтых мэтах пры рабочым дні магазіна больш 8 гадзін неабходна, каб у часы максімальнага напльву пакупнікоў у магазіне працавала найбольшая колькасць прадаўцоў з тым, каб колькасць іх змяншалася ў часы адносна слабага гандля.

9. Магазін абавязан забяспечыць праходжанне ўсімі работнікамі магазіна ўстаноўленага тэхмінімума і сістэматычна павышаць іх кваліфікацыю.

10. Адказнасць за дзейнасць магазіна ў цэлым нясе дырэктар магазіна; матэрыяльную-ж адказнасць нясуць тыя асобы, якім непасрэдна перададзены пад справаздачу матэрыяльныя каштоўнасці, а таксама і дырэктар магазіна ў выпадку непрыняцця ім своечасова адпаведных мер па барацьбе з раскрадваннямі, растратамі, недахопамі і т. д.

11. Магазіны павінны ўтрымлівацца ў чыстаце з захаваннем устаноўленых санітарных правіл.

12. У адпаведнасці з устаноўленымі Наркамунутгандлем СССР 21 красавіка 1935 г. за № 284 правіламі, у кожным абутковым магазіне павінна быць кніга скаргаў і прапаноў.

## II. Прыёмка абутку

13. Прыёмка абутку праводзіцца дырэктарам магазіна асабіста або па яго даручэнню работнікамі магазіна.

Матэрыяльную адказнасць па прыёмцы нясуць тыя асобы, якія фактычна праводзяць прыёмку.

14. Прыёмка абутку павінна праводзіцца ў падсобным памяшканні магазіна з тым, каб пазбегнуць заграмаджэння таварам гандлёвай залы і парушэння нармальнага водпуска абутку пакупнікам.

15. Па прыёмцы абутку належыць перш за ўсё праверыць колькасць і стан прыбыўшых скрынь з абуткам, а таксама адпаведнасць іх з данымі дакументаў адпраўіцеля, у прыватнасці, наяўнасць чоткай маркіроўкі з абавязковым абазначэннем віда абутку, артыкула і растоўкі.

Калі колькасць паступіўшых скрынь супадае з данымі дакументаў адпраўіцеля і цэласць скрынь у прыёмшчыка не выклікае сумненні, прыёмшчык распісваецца ў прыёмцы тавара.

16. У тых выпадках, калі цэласць скрыні выклікае сумненні ў прыёмшчыка, гэтая скрыня павінна быць ускрыта і тавар, які знаходзіцца там, павінен быць праверан.

Калі пры гэтым будзе выяўлен недахоп або недобраякаснасць абутку, які знаходзіцца ва ўскрытай скрыні, прыёмшчыкам, здатчыкам і прадстаўніком грамадскасці магазіна складаецца адпаведны акт.

17. Агульная колькасная і якасная прыёмка абутку праводзіцца ў тэрміны і ў парадку, прадугледжаныя дагаворам з пастаўшчыком, а ў тых выпадках, калі тэрміны і парадак прыёмкі дагаворам не прадугледжаны, бакі кіруюцца тэрмінамі і парадкам, устаноўленымі для якаснай прыёмкі інструкцыяй Дзярж. арбітража пры СНК СССР ад 2 студзеня 1935 года.

18. Якасная прыёмка абутку павінна праводзіцца наступным чынам:

а) знадворны агляд—папарна, у адпаведнасці з устаноўленымі стандартамі ці ўзгодненымі паміж бакамі тэхнічнымі ўмовамі, або ўзорамі;

б) праверка адпаведнасці матэрыялу і ўнутранай часткі абутка стандарту, тэхнічным умовам, узгодненымі бакамі і ўзорам праводзіцца шляхам ускрыцця абутку і агляда яго сустаўных частак, для чаго па ўгледжанню прыёмшчыка адбіраецца адна пара абутку з партыі ў колькасці ад 100 да 1 000 пар і ў далейшым адна пара ад кожнай тысячы.

в) правільнасць размераў абутку—шляхам укладвання ў паасобных выпадках па ўгледжанню прыёмшчыка раздвіжнай калодкі адпаведнага размера і фасона.

> **Увага.** Прыёмшчык магазіна пры якаснай прыёмцы абутку кіруецца дэтальнай інструкцыяй па паасобных відах абутку, выдаваемай вышэйстаячай арганізацыяй. Усе асобы, якія адказваюць за прыёмку абутку, абавязаны прайсці праверачныя іспыты па веданню гэтай інструкцыі.

19. Прыёмныя сталы павінны абівацца грубашэрсным сукном або мяккай тканінай (фланель, бумазея і т. п.) для прадухілення абутку ад пашкоджання.

20. У выпадках прыёмкі абутку на базе пастаўшчыка прэтэнзіі па якасці могуць прад'яўляцца толькі пры выяўленні ва ўстаноўлены тэрмін скрытых дэфектаў прынятага абутку або змен яго якасці, якія адбыліся па віне пастаўшчыка (нядбайная ўпакоўка і т. д.) пасля праведзенага адбору.

## III. Хаванне абутку

21. Абутак павінен хавацца ў падсобным памяшканні магазіна такім чынам, каб забяспечыць:

а) максімальнае выкарыстанне ёмкасці складачнага памяшкання і хуткае знаходжанне таго ці іншага віда і размера абутку;

б) магчымасць прахода к месцу хавання для ўчота і водпуска ў гандлёвую залу магазіна;

в) прадухіленне абутку ад псавання.

22. Тэмпература ў падсобным памяшканні павінна захоўвацца ў межах ад 13 да 18 градусаў па Цэльсію.

Кропкі электрасвятлення павінны знаходзіцца на адлегласці не бліжэй 50 сантыметраў ад абутку.

Абутак павінен знаходзіцца не бліжэй аднаго метра ад крыніц атаплення.

23. Пасля колькаснай і якаснай прыёмкі абутак павінен быць вычышчан, распраўлен, укладзен ў каробкі і размешчан на сцелажы ў падсобным памяшканні.

Вышыня ўкладкі радоў абутку можа быць не больш 10 радоў.

> **Увага.** Для прывядзення ў парадак абутку пасля працяглай транспартыроўкі ў падсобным памяшканні павінны быць: шчоткі, воск, фарба, апрэтура, апараты для ўстаўлення блочак і гузікаў, шавецкія нажы і клешчы.

24. Сцелажы ў падсобным памяшканні павінны ўстанаўлівацца на адлегласці не бліжэй 25 *см* ад сцен.

25. Пры хаванні абутку без каробак, трэба яго ўкладваць у такім парадку, каб каблучная частка аднаго бацінка прыпадала на берцовую частку другога.

26. Укладка ялавых ботаў праводзіцца ў клетках паліц радамі па шырыні паліцы, укладваючы рады такім чынам, каб боты ў першым радзе ўкладваліся наскамі разам (унутр), у другім—пяткамі разам і так па чарзе ў вышыню не вышэй 8 радоў, не дапускаючы ні ў якім разе згібання галяншчаў ботаў. Кожны рад павінен быць аддзелены ад наступнага рада аркушам паперы.

Хаванне ялавых ботаў дапускаецца таксама на брусчатых козлах (вешалках) у навеску.

27. У выпадку хавання абутку на паліцах без каробак ці на козлах (вешалках) у навеску (пп. 25 і 26) паліцы павінны закрывацца занавескамі, а козлы (вешалкі) пакрывацца паперай.

Хаванне якога-б там ні было абутку навалам, на падлозе і т. п. сурова забараняецца.

28. Для ўстанаўлення правільнай сістэмы размяшчэння абутку і яго хуткага знаходжання, а таксама ўчота—паліцы, клеткі, рады і т. п. павінны быць размечаны адпаведнымі абазначэннямі і нанесены на даведачную карту размяшчэння абутку.

29. Пры размяшчэнні абутку неабходна сачыць за тым, каб новапрыбыўшы абутак не закрываў раней прыбыўшага. Перадача абутку з падсобнага памяшкання ў гандлёвую залу павінна праводзіцца з такім разлікам, каб у гандлёвую залу паступаў абутак аднаго і таго-ж віда, фасона, размера і т. п. у парадку паступлення яго ў падсобнае памяшканне, каб пазбегнуць залежвання тавара.

## IV. Водпуск абутку

30. Абутак, які паступае ў гандлёвую залу, павінен быць папярэдне добрае агледжан, рассартыраван, расцэнен і ў неабходных выпадках разложан у каробкі, пры гэтым неабходна праверыць, ці ёсць на абутку адпаведнае абазначэнне цаны, гатунка і інш.

31. У мэтах эканоміі часу прадаўца і пакупніка пры выбары патрэбнага абутку ва ўсіх спецыялізаваных і ў найбольш значных змешаных магазінах абутак патрэбна раскладваць па нумарам з тым, каб максімальна паскорыць знаходжанне любога патрабуемага нумара.

32. Культурнае абслугоўванне пакупніка ў абутковым магазіне не патрабуе абсталявання абутковага магазіна прылаўкамі.

33. Для найлепшага абслугоўвання пакупніка, найбольш удобнай прымеркі абутку і т. д. магазін павінен быць забяспечан у дастатковай колькасці дыванамі, крэсламі, спецыяльнымі лаўкамі пад ногі, коўрыкамі, люстрамі і т. д.

34. Прадавец абавязан прымяраць абутак на абедзве нагі пакупніка і правяраць ці добра абутак сядзіць на нозе. Пры прымерцы прадавец абавязан добра правяраць рукой адсутнасць знутры абутка выступаючых цвікоў.

> **Увага.** Для больш дакладнага вызначэння размера неабходнага абутку мэтазгодна ўжываць вымяральны прыбор, верхняя частка якога раздзелена на дзесяцісантыметровыя квадраты з абазначэннем шкалы размера. Гэты прыбор прыціскаецца к пяткам, вялікаму пальцу і к абодвым бакам нагі.

35. Магазін абавязан забяспечыць пакупніку пры выбары ім абутку поўную магчымасць азнаямлення з ўсім асартыментам, які ёсць у магазіне.

36. Прадавец абавязан аказваць пакупніку неабходнае садзейнічанне пры выбары ім абутку (віда, фасона, размера і т.п.), азнаямляючы яго з якасцю, цаной, спосабам карыстання і захоўвання купляемага абутку.

Пры наяўнасці якасных недахопаў у абутку, прадавец абавязан папярэдзіць аб гэтым пакупніка.

37. У выпадку адсутнасці ў магазіне патрабуемага пакупнікам абутку прадавец абавязан прапанаваць пакупніку другі абутак, які мог-бы замяніць адсутнічаючы.

38. Абутак, які мае які-б там ні было брак і пераацэнены, пускаецца ў продаж як непоўнацэнны, па паніжанай цане, згодна зробленай уцэнкі.

39. Для забеспячэння кантроля пакупніка за захаваннем устаноўленых цэн на абутак, у магазіне на відным месцы павінен быць вывешан прэйскурант рознічных цэн. Акрамя прэйскуранта, цэны павінны быць абазначаны на ярлыках пры кожнай пары абутку. На бракаваным абутку ярлык павінен мець абазначэнне паніжанай цаны з паказаннем, што абутак бракаваны.

40. Магазін павінен арганізаваць належную інфармацыю аб асартыменце абутку, які ёсць у магазіне, цэнах і т. д., у прыватнасці, шляхам абсталявання вітрын, кіруючыся пры гэтым правіламі абсталявання і ўтрымлівання вітрын ў гандлёвых памяшканнях, зацверджанымі Наркамунутгандлем СССР 3-га ліпеня 1935 года.

Увага. Інфармацыя аб абутку, які ёсць у магазіне, павінна давацца па запытам пакупнікоў і па тэлефону.

41. Для аблягчэння пакупніку выбара абутку, у магазіне арганізуюцца вітрыны ўнутры магазіна або шляхам ашклянення шафаў і выставачных сталоў, або шляхам абсталявання ашкляненых скрынак у прылаўку.

42. Выдача абутку пакупніку праводзіцца або непасрэдна прадаўцом (у невялікіх магазінах) або праз спецыяльныя кантрольныя сталы, арганізуемыя ў абутковых магазінах з лікам прадаўцоў не менш 5-ці.

43. Абутак, як правіла, адпускаецца пакупніку ў каробках; абутак, які атрымліваецца магазінам ад пастаўшчыкоў без каробак, адпускаецца пакупніку ў папяровай упакоўцы.

44. Магазін павінен арганізаваць сістэматычнае і штодзённае вывучэнне попыта спажыўца, кіруючыся пры гэтым цыркулярам Наркамунутгандля СССР ад 2-га ліпеня 1935 года, № 12636.

45. У кожным абутковым магазіне павінен быць у неабходнай колькасці шавецкі інструмент (машынка для ўстаўлення блочак, лапка для чысткі цвікоў, клешчы, малаток, кручкі і т. д.) для правядзення на месцы прасцейшага рамонта прадаваемага абутку.

46. На відным месцы ў магазіне павінны быць вывешаны правілы абмена і пачынкі недобраякаснага абутку, купленага ў рознічнай гандлёвай сетцы, зацверджаныя пастановай Наркамунутгандля СССР ад 8 жніўня 1935 года, № 732.

* * *

47. Гандлюючая арганізацыя, у склад якой уваходзіць абутковы магазін (спецыялізаваны, змешаны), абавязана прыняць меры к таму, каб гэтыя правілы гандля абуткам былі даведзены да ведама работнікаў абутковага магазіна (або секцыі).

---

# Узнагароджанне лепшых выдатнікаў совецкага гандля

## ЗАГАД

## па Народнаму Камісарыяту Ўнутранага Гандля СССР

## № 1973

3 снежня 1935 г. — г. Масква

На лозунгі т. **СТАЛІНА** „Тэхніка на чале з людзьмі, аўладаўшымі тэхнікай, можа і павінна даць цуды“ і „Кадры рашаюць усё“—рабочы клас адказаў арганізацыяй стаханаўскага руху, які ў кароткі тэрмін ператварыўся ў магутны рух за высокую вытворчасць працы. Стаханаўскі рух, які выклікаў велізарны ўздым творчага энтузіязма народных мас, знайшоў жывейшы водгук сярод работнікаў совецкага гандля.

Лепшыя людзі совецкага гандля—ударнікі і выдатнікі—ужываючы стаханаўскія метады, змагаюцца за перавыкананне плана таваразвароту і сапраўднае культурнае абслугоўванне рабочых і калгаснікаў на аснове павышэння вытворчасці працы, рацыянальнай расстаноўкі людзей, раздзялення працы, ушчыльнення рабочага дня і поўнага выкарыстання тэхнікі ў гандлі.

Кіраўнікі аб'яднанняў, трэстаў, дырэктары магазінаў, старшыні ОП, дырэктары ТОРГ'аў, кіраўнікі кантор павінны ўзначаліць стаханаўскі рух дзяржгандля сваім непасрэдным кіраўніцтвам і штодзённымі клопатамі аб лепшых людзях гандлю, дабіваючыся таго, каб рэкордная вытворчасць працы і лепшае абслугоўванне спажыўца, якіх дасягнулі выдатнікі, сталі масавым з'явішчам.

Кіраўнікі гандлёвых арганізацый павінны рашуча змяніць метады работы трэстаў, ТОРГ'аў, кантор па кіраўніцтву магазінамі, забяспечваючы штодзённае, канкрэтнае кіраўніцтва работай магазінаў, веданне іх патрэб і штодзённых запатрабаванняў, чоткую арганізацыю снабжэння магазінаў таварамі.

Народны Камісарыят Унутранага Гандля СССР лічыць неабходным адзначыць работу лепшых выдатнікаў совецкага гандля:

1. Тав. **Барысаву, С. Т.**—загадчыцу секцыяй канфекцыі магазіна № 84 Гормасторга—за паспяховую работу па пашырэнню асартымента тавараў, барацьбу за якасць тавараў і сталы асартымент, ра-

цыянальную растаноўку рабочай сілы, майстэрскае распалажэнне тавараў і клапатліва-уважлівыя адносіны да запатрабаванняў пакупнікоў, у выніку чаго зварот секцыі з 100 тыс. р. у I-м квартале 1935 г. павялічыўся да 300 тыс. руб. у III-м квартале—прэміраваць піаніна.

2. Тав. **Нікалаеву, Е. В.**—прадаўца-хлебарэза магазіна № 97 Баўманскага ОП у Маскве за ўжыванне рада тэхнічных метадаў, якія дазволілі дабіцца павышэння вытворчасці працы (павелічэнне штомесячнай нормы з 16,5 тон хлеба да 30 тон), пры ўважлівым і культурным абслугоўванні спажыўца—прэміраваць пакоем.

3. Тав. **Якаўлеву, В. Г.**—загадчыцу кандзіцерскай секцыяй магазіна № 19 Мас. Гастранома—за шырокую ініцыятыву ў справе палепшання абслугоўвання пакупнікоў, значны рост вытворчасці працы работнікаў секцыі, пашырэнне асартымента тавараў і за перавыкананне плана тавараэвароту—прэміраваць патэфонам з 30 пласцінкамі.

4. Тав. **Перадкова, А. В.**—нам. загадчыка бакалейнай секцыяй магазіна № 1 „Гастранома" у Маскве—за рацыянальную растаноўку рабочай сілы, правільную арганізацыю рабочых месц секцыі і перавыкананне плана—прэміраваць касцюмам і пальто.

5. Тав. **Малакуцкага, І. К.**—прадаўца-хлебарэза магазіна № 236 Ленінскага ОП—за ўвядзенне новых метадаў работы, якія аблягчылі яго працу, ушчыльнілі рабочы дзень і дазволілі дабіцца перавыканання плана і ўстаноўленай нормы нагрузкі, на аснове высокай вытворчасці працы пры ўважлівым і культурным абслугоўванні спажыўца—прэміраваць гармонню „баян".

6. Тав. **Селязнёву, В. Ф.**—прадаўшчыцу магазіна № 30 Ленхарчгандля—за паспяховае асваенне гандлёвай тэхнікі, высокую вытворчасць працы, поўнае выкарыстанне рабочага часу, папярэднюю падрыхтоўку тавара, уважлівыя адносіны да спажыўца, вывучэнне попыта пакупнікоў—прэміраваць піаніна.

7. Тав. **Гук, С. А.**—загадчыка аддзелам прадуктова-змешанага магазіна № 3 Смольнінскага Райпо ў Ленінградзе—за рацыянальныя метады і прыёмы работы, ужыванне добрай папярэдняй падрыхтоўкі тавараў і інвентара, унядрэнне культурных навыкаў сярод работнікаў прылаўка і чыстату рабочага месца—прэміраваць гарнітурам меблі.

8. Тав. **Палякову, М. Л.**—загадчыцу змешанага промтаварнага магазіна № 107 Ленпромгандля—за актыўную барацьбу, за наяўнасць сталага асартымента ў магазіне, шляхам устанаўлення сталай сувязі з прамысловасцю, уздзейнічання на прамысловасць, паспяховага развіцця самазагатовак, асабістага адбора тавараў, за ўжыванне рада метадаў найбольш прывабнага і мэтазгоднага распалажэння тавара на прылаўку, стварэнне сталага кола пакупнікоў, за ўмелы падбор прадаўцоў—прэміраваць чайным і абедзеным сервізам.

9. Тав. **Евдакімаву, А. І.**—прадаўца-хлебарэза магазіна № 221 Валадарскага Райпо ў Ленінградзе—за высокую вытворчасць працы пры дапамозе ўнядрэння новых прыёмаў работы, якія значна аблягчылі працу і ўшчыльнілі рабочы час (добрая падрыхтоўка тавараў к адкрыццю магазіна, папярэдні агляд і падрыхтоўка інвентара, рэзка з адным націскам, разрэзка без давескаў і абрэзкаў і т. д.), уважлівае вывучэнне густу спажыўцоў—прэміраваць гадзіннікам.

10. Тав. **Нарыжнага, К. Л**—прадаўца мануфактурнага аддзела Харкаўскага ўнівермага Наркамунутгандля СССР—за ўмелае выкарыстанне рабочага часу, поўнае выкарыстанне ўсяго інвентара, культурнае абслугоўванне спажыўца, вывучэнне густу і патрабаванняў пакупніка, арганізацыю кансультацый спажыўца, барацьбу за сталы асартымент і высокую вытворчасць працы (пры планавым звароце на работніка брыгады ў 2 456 руб., фактычна зварот склаў 4 760 руб. у дзень у кастрычніку)—прэміраваць фотаапаратам „Лейка" з прыладамі.

11. Тав. **Яраву, О. І.**—старшую прадаўшчыцу галантарэйна-трыкатажнай секцыі магазіна № 10 Горкаўскага ГОРТ'а—за паспяховую ініцыятыву ў справе рацыянальнай растаноўкі рабочай сілы, правільнае выкарыстанне рабочага часу, рацыянальнае распалажэнне тавараў, высокую вытворчасць працы, павышэнне нормы нагрузкі (800 р. у дзень пры норме ў 400 р.)—прэміраваць гадзіннікам.

Народны Камісар Унутранага
Гандля СССР **І. Я. ВЕЙЦЭР**

# Аб правядзенні навагодніх кірмашоў і базараў

## ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Унутранага Гандля БССР

13 снежня 1935 г. **№ 911** г. Менск

У адпаведнасці з пастановай СНК БССР аб правядзенні перыядычных ярмарак і на падставе ўказанняў Наркамунутгандля СССР, Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР пастанаўляе:

1. Абавязаць Горрайунутгандлі распрацаваць план і арганізаваць правядзенне з 25 снежня да 1-га студзеня 1936 г. уключна навагодніх кірмашоў і базараў, узгадніўшы гэтае пытанне з мясцовымі партыйнымі і савецкімі арганізацыямі. Планы кірмашоў і базараў, зацверджаныя Горсаветамі і РВК, даслаць Наркамунутгандлю не пазней 20/XII—35 г.

2. Абавязаць Горрайунутгандлі і Упраўленні базарамі забяспечыць правядзенне масава-растлумачальнай работы сярод калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў, падрыхтаваць матэрыяльна-тэхнічную базу базарных плошчаў, іх мастацкае афармленне і культ. абслугоўванне.

3. Даручыць гандлюючым арганізацыям (БКС, Белгандаль, Белхарчгандаль, Гум, Гастраном Бакалея, Белкаапінсаюз, Промкаапeрацыя, ОРС'ы і інш.) шырока разгарнуць сустрэчны гандаль, усямерна скарыстоўваючы для гэтага мясцовыя рэсурсы.

4. Абавязаць Горрайунутгандлі разам з органамі УНХУ забяспечыць учот прывоза с/гасп. прадуктаў і нагляд за рухам рыначных цэн.

5. Справаздачы аб правядзенні кірмашоў і базараў даслаць Наркамунутгандлю не пазней 10 студзеня 1936 года.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. ГУРЭВІЧ**

# Актыўна рыхтавацца да новай дагаворнай кампаніі

## Загад па Народнаму Камісарыяту Ўнутранага Гандля БССР

7 снежня 1935 г. **№ 430** г. Менск

У мэтах лепшай арганізацыі работы па заключэнню дагавароў на 1936 год і забеспячэння значна большага ахопу дагаварамі тавараў, павышэння барацьбы за якасць тавараў, дастаўляемых на аснове дагавароў, з а г а д в а ю:

1. Усім дырэктарам трэстаў: Белгандля—т. **Кантару**, Белхарчгандля т. **Ціменка**, упаўнаважанаму Горспажыўсаюза т. **Крэйніну**, усім упаўнаважаным Наркамунутгандля, ЦРК і Гарпо—разгарнуць падрыхтоўчую работу па заключэнню дагавароў на 1936 год, а таксама прыступіць неадкладна да перагавораў з контр-агентамі аб умовах дагавароў. Неадкладна запатрабаваць неабходныя матэрыялы па гэтаму пытанню ад сваіх глаўкаў.

2. Белгандлю, Белхарчгандлю, Горспажыўсаюзу неадкладна распрацаваць і прадставіць свае заяўкі ў галоўныя кіраўніцтвы Саюзнаркамунутгандля на тыя тавары, якія яны лічылі-б мэтазгодным набыць па гадавых і кароткатэрміновых дагаварах.

3. У пяцідзённы тэрмін распрацаваць і прадставіць у Наркамунутгандаль БССР і сваім глаўкам планы заключэння дагавароў асобна па відах тавараў з паказаннем контр-агентаў па дагаварах на прадмет магчымасці пашырэння непасрэднага прымацавання да вытворчых прадпрыемстваў для атрымання гэтых тавараў, мінуючы збыты прамысловасці.

4. Дырэктарам трэстаў, усім ТОРГ'ам, а таксама ЦРК і Гарпо неадкладна распрацаваць рад мерапрыемстваў па заключэнню дагавароў з мясцовымі саматужнымі прадпрыемствамі і неадкладна прадставіць свае меркаванні Наркамунутгандлю (промтаварны аддзел).

Промтаварнаму аддзелу Наркамунутгандля ўсе гэтыя пытанні неадкладна прапрацаваць і даваць практычны напрамак з тым, каб на тавары, якія вырабляюцца гэтымі арганізацыямі, былі-б неадкладна заключаны дагаворы.

5. Растлумачыць усім арганізацыям, што да рэарганізацыі гандлёвай сеткі, падрыхтоўку да работы па заключэнню дагавароў і правядзенне дагаворнай кампаніі на 1936 год Горспажыўсаюз і ЦРК, як правіла, праводзяць самастойна, нараўне з іншымі гандлюючымі арганізацыямі.

6. Адказнасць за належнае правядзенне работы па заключэнню дагавароў ускладаецца непасрэдна на кіраўнікоў гандлюючых арганізацый (дырэктароў трэстаў, старшынь ЦРК, Горспажыўсаюзаў).

7. Абавязаць дырэктароў трэстаў, упаўнаважаных ЦРК і Горспажыўсаюза прадстаўляць мне па-дэкадна кароткія звесткі аб ходзе падрыхтоўкі і заключэння дагавароў з пастаўшчыкамі (ход перагавораў з арганізацыямі і прычыны, якія тармозяць падрыхтоўку і заключэнне самога дагавора).

8. Кіраўніцтва работай па заключэнню дагавароў на 1936 год па сістэме Наркамунутгандля ўскласці на Арбітраж Наркамунутгандля БССР.

Народны Камісар Унутранага Гандля БССР
**Н. ГУРЭВІЧ**

---

# ПАШЫРЫЦЬ ГАНДАЛЬ ЗАПАЛКАМІ

## Пастанова Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

2 снежня 1935 г. **№ 893** г. Менск

У мэтах узмацнення рэалізацыі запалак і ў развіццё пастановы НКУГ СССР ад 22/XI—35 г. за № 1269 Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР п а с т а н а ў л я е:

1. Абавязаць кіраўнікоў Белхарчгандля, „Гастранома“, „Бакалеі“, ЦРК, Горспажыўсаюза і Белгандля, ва ўсіх крамах, маючых у сваім асартыменце бакалейна-гастранамічныя тавары, хлеба-булачныя і іншыя прадтавары для ўдобства спажыўца арганізаваць продаж запалак таксама праз касы магазінаў. Аднак, папярэдзіць, што пры продажы праз касы забараняецца выдача запалак замест рэшты грошай.

2. Прэзідыуму Белкаапсаюза і Белгандля, гандаль запалкамі вытвараць ва ўсёй сельскай сетцы, у адпаведнасці з паказаннем у п. 1.

Дырэкцыі трэста кафэ-рэстаранаў арганізаваць продаж запалак праз буфеты па рэстаранах, сталовых, піўных і ўсе іншыя свае прадпрыемствы.

Для атрымання запалак прымацаваць трэст кафэрэстаранаў да Белхарчгандля.

3. Абавязаць Горунутгандлі прымацаваць да гандлюючых арганізацый на атрыманне запалак усе буфеты, тэатры, кіно і іншыя відовішчныя прадпрыемствы,—кафэ і піўныя, абавязаўшы апошнія абавязкова мець у сваім асартыменце запалкі.

4. Старшыні Белкаапінсаюза (БСІКА) разгарнуць гандаль запалкамі ва ўсіх крамах, ларках, кіёсках, буфетах, піўных і т. д.

5. Дырэктару Белканторы Табакгандля пашырыць гандаль запалкамі праз латошнікаў, забяспечыўшы бесперабойнае іх снабжэнне запалкамі праз бліжэйшыя крамы.

6. Абавязаць кіраўнікоў усіх арганізацый, закліканых гандляваць запалкамі (тавара-праводзячую сетку, буфеты, піўныя і т. д.) узяць пад асобы нагляд сталую наяўнасць запалак ва ўсіх адзінках сваёй сістэмы.

7. Гандлёвай Інспекцыі (т. **Левіну**) праверыць выкананне гэтай пастановы і мець сталы нагляд за яе ажыццяўленнем.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. ГУРЭВІЧ**

## За ігнараванне гандля соллю вінаватых прыцягваць да адказнасці

### Пастанова Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

4 снежня 1935 г. **№ 899** г. Менск

Праверкай, праведзенай органамі Наркамунутгандля БССР і інспектарам Наркамунутгандля СССР ступені насычанасці гандлёвай сеткі соллю ў гарадах і раёнах устаноўлена наступнае:

1. **Па гораду:** не гледзячы на наяўнасць вялікіх запасаў солі ў Гомелі, у радзе магазінаў (магазіны ЦРК № 43, 13, 3, ОРС'а воднікаў № 2, НКУС № 2)— соль адсутнічае.

Не аказалася солі ў радзе магазінаў ЦРК Бабруйска (№№ 73, 33, 47, 70, 66, 72, 2, 23, 60, 5, 16 14 і 3).

2. **Па сялу:** адсутнічае соль у Бягомльскім раёне. Вельмі нязначныя запасы солі ёсць у радзе сельпо Магілеўскага і Быхаўскага раёнаў, а часта соль зусім адсутнічае.

3. Разглядаючы такое з'явішча, як яўнае ігнараванне гандля соллю, Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР **пастанаўляе:**

1. Абавязаць Гор. і Райунутгандлі Гомеля, Бабруйска, Магілева, Быхава і Бягомля неадкладна разгледзець прычыны адсутнасці солі ў магазінах і вінаватых прыцягнуць да адказнасці.

2. Папярэдзіць усе гандлюючыя арганізацыі, што ў выпадку выяўлення падобных фактаў у далейшым, вінаватыя будуць прыцягвацца да суровай адказнасці, аж да аддання пад суд.

Нарком Унутранага Гандля БССР
**Н. ГУРЭВІЧ**

---

## Аб хішчэннях і растратах у сістэме Менскага Горспажыўсаюза

### Загад па Народнаму Камісарыяту Ўнутранага Гандля БССР

7 снежня 1935 г. **№ 429** г. Менск

Разгледзеўшы матэрыял, дасланы Ўпаўнаважаным Камісіі Савецкага Кантроля па пытанню аб хішчэннях і растратах у сістэме Менскага Горспажыўсаюза і тлумачэнне па гэтаму пытанню старшыні Горспажыўсаюза т. **Крэйніна**, лічу, што, не гледзячы на некаторае палепшанне работы, усё-ж барацьба з растратамі і хішчэннямі дзяржаўнай уласнасці ў гэтай сістэме вядзецца недастаткова і ў апараце Горспажыўсаюза яшчэ засталася значная колькасць чужакоў, якія прысасаліся да савецкага гандлёвага апарата.

**Загадваю:**

1. Для аздараўлення гандлёвага апарата Горспажыўсаюза і поўнага знішчэння растрат і хішчэнняў— старшыні Горспажыўсаюза т. **Крэйніну** правесці наступнае:

а) праверыць усе працоўныя спісы, а таксама на практычнай рабоце сваіх работнікаў, у першую чаргу тых, якім даручаны грашова-матэрыяльныя каштоўнасці;

б) усіх уноў прымаемых работнікаў абавязкова прапускаць праз атэстацыйную камісію. Ні ў якім разе не дапускаць прыём тых работнікаў, якія ўжо абвінавачваліся ў растратах у іншых гандлёвых арганізацыях;

в) забяспечыць чоткую пастаноўку работы бухгальтэрыі, не дапускаючы ніякай заблытанасці, якая зацягвае выяўленне растрат і хішчэнняў і паслабляе кантроль за работнікамі;

г) перагледзець увесь склад інспектароў і інспектароў-кантралёраў па сетцы, значна палепшыўшы якасць гэтых кадраў;

д) шырока практыкаваць сістэму пазапланавых налётаў і рэвізій магазінаў і складаў.

2. Абавязаць т. **Крэйніна:**

а) пры выяўленні растрат на суму звыш 1 000 руб., расследванне праводзіць асабіста, а па ўсім астатнім растратам даручаць расследванне найбольш адказным работнікам;

б) не дапускаць ніводнага выпадка растрат або хішчэнняў без перадачы судовым органам. Справы перадаваць неадкладна па выяўленні і дабівацца іх хутчэйшага разгляда;

в) вакол усіх выяўленых фактаў шырока мабілізаваць грамадскасць, арганізаваўшы на барацьбу з растратамі і хішчэннямі ўсіх работнікаў сістэмы.

Нарком Унутранага Гандля БССР
**Н. ГУРЭВІЧ**

---

## Зрабіць тамат-пюрэ сталым асартыментам усіх плодагародніх і прадуктовых магазінаў

### Загад па Народнаму Камісарыяту Ўнутранага Гандля БССР

29 лістапада 1935 г. **№ 425** г. Менск

У сувязі з наяўнасцю фактаў адсутнасці ў гандлёвай сетцы тамат-пюрэ і ў развіццё нашай пастановы ад 2-X—35 г. № 672 „Аб гандлі таматам-пюрэ"— Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР **пастанаўляе:**

1. Пад адказнасць кіраўнікоў гандлюючых арганізацый і начальнікаў ОРС'аў увесці ў продаж ва ўсіх плодагародніх і прыстасаваных прадуктовых магазінах тамат-пюрэ як сталы асартымент.

2. Аддзелу грамадскага харчавання і Ўпраўленню рэстаранаў і кафэ даць паказанне сваёй сістэме аб ужыванні тамата ва ўсіх блюдах, закладка ў якія тамата прадугледжана рэцэптурай.

3. Усім гандлюючым арганізацыям і прадпрыемствам грамадскага харчавання, якія яшчэ не заключылі з Саюзкансервзбытам дагавароў на тамат—на працягу дэкады ўстанавіць патрэбнасць у тамаце да новага ўраджая і заключыць дагаворы на неабходную колькасць, прадставіўшы Саюзкансервзбыту па-квартальныя заяўкі, копіі якіх даслаць у прод-аддзел НКУГ БССР.

4. Кантроль за выкананнем гэтага загада ўскласці па наркамату—на прод. аддзел, а па гарадам—на Гор. Райунутгандлі.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. ГУРЭВІЧ**

# ПРАВІЛЫ ГАНДЛЯ МЯСАМ І МЯСАПРАДУКТАМІ

*(Дадатак да пастановы Наркамунутгандля СССР ад 24/IX—1935 г. № 936).*

## I. Агульныя палажэнні

1. Гандаль мясам і мясапрадуктамі праводзіцца ў спецыялізаваных магазінах і палатках, а таксама ў аддзяленнях змешаных прадуктовых магазінаў.

2. Спецыялізаваныя магазіны, палаткі і аддзяленні прадуктовых магазінаў, гандлюючыя мясам і мясапрадуктамі, павінны мець секцыі з наступным асартыментам тавараў:

а) мясная—гавядзіна, свініна, цяляціна, бараніна і птушка;

б) каўбасная—каўбаса, капчонасці, тлушчы і мясакансервы;

в) субпрадуктаў—мазгі, сэрца, почкі, печань, вымя, ногі і т. п.

3. Магазіны, гандлюючыя мясам і мясапрадуктамі, павінны будаваць сваю работу на аснове культурнага абслугоўвання пакупніка, у адпаведнасці з павышанымі патрабаваннямі яго да якасці і асартымента мяса і мясапрадуктаў.

4. Магазіны праводзяць мерапрыемствы па забеспячэнню правільнай растаноўкі рабочай сілы і ўшчыльнення рабочага дня работнікаў прылаўка, павышаючы пры гэтым якасць абслугоўвання пакупніка. У гэтых мэтах пры рабочым дні магазіна больш 8 гадзін у дзень неабходна, каб у гадзіны максімальнага наплыва пакупнікоў у магазіны працавала найбольшая колькасць прадаўцоў, змяншаючы іх колькасць у гадзіны адносна слабага гандля.

5 Магазіны абавязаны забяспечыць прахаджэнне ўсімі работнікамі ўстаноўленага тэхмінімума па гандлю мясам і мясапрадуктамі і сістэматычна павышаць іх кваліфікацыю.

## II. Снабжэнне

6. Магазіны, палаткі і аддзяленні прадуктовых магазінаў, гандлюючыя мясам і мясапрадуктамі, абавязаны загадзя, але не пазней чым за адны суткі, даваць сваёй вышэйстаячай арганізацыі заяўкі на неабходную колькасць і асартымент мяса і мясапрадуктаў, якія падлягаюць дастаўцы на наступны дзень у магазін, палатку і т. д.

7. Завоз мяса і мясапрадуктаў з мясакамбіната, каўбаснай фабрыкі і гандлёвай базы ў магазін і палатку праводзіцца па заяўках апошніх і ў адпаведнасці з колькасцю і асартыментам, паказанымі ў заяўцы.

8. Дастаўка тавара ў магазін (палатку) павінна праводзіцца, як правіла, да пачатку работы магазіна.

9. Дастаўка тавара ў магазін (палатку) і яго прыёмка ў часы гандля не павінны парушаць нармальнай работы магазіна па абслугоўванню пакупніка.

## III. Перавозка

10. Перавозка мяса і мясапрадуктаў з мясакамбінатаў, каўбасных фабрык і гандлёвых баз дапускаецца толькі ў спецыяльна прадназначаным для гэтай мэты транспарце:

а) у аўтамашынах з закрытымі кузавамі, унутраная частка якіх павінна быць абшыта ацынкаваным ці лужоным жалезам і забяспечана вешаламі (круч'ямі);

б) у аўгамашынах з закрытымі кузавамі, але спецыяльна не абсталяваных для перавозкі мяса і мясапрадуктаў;

в) у адкрытых аўтамашынах;

г) гужавым транспартам (фургоны).

Увага 1. Аўтамашыны з закрытымі кузавамі, але спецыяльна не абсталяваныя для перавозкі мяса і мясапрадуктаў, адкрытыя аўтамашыны, а таксама фургоны гужавой цягі могуць быць скарыстаны для перавозкі мяса і мясапрадуктаў толькі пры абавязковай умове папярэдняй, добрай ачысткі і прамыўкі іх. Паказаныя аўтамашыны і фургоны павінны быць забяспечаны неабходнай колькасцю чыстых бразентаў для падсцілкі іх пад мяса і мясапрадукты і пакрыцця зверху.

Увага 2. Фургоны гужавой цягі павінны мець спецыяльна абсталяваныя месцы для сядзення возчыкаў.

11. Сядзенне возчыкаў на прадуктах катэгарычна забараняецца.

12. Аўтамашыны і фургоны, прадназначаныя спецыяльна для перавозкі мяса і мясапрадуктаў, павінны быць забяспечаны неабходным камплектам халатаў і фартукоў (як інвентар, які належыць данай аўтамашыне ці фургону), карыстанне якімі абавязкова толькі пры пагрузцы мяса і мясапрадуктаў на аўтамашыны і фургоны і выгрузцы іх на месцы дастаўкі, пасля чаго халаты і фартукі павінны быць зняты і забраны ў скрынку (аўтамашыны ці фургона), спецыяльна прыстасаваную для гэтай мэты.

13. Перавозка мяса ў тушах ці поўтушах разам з другімі харчовымі прадуктамі, а таксама мясапрадуктамі, запакаванымі ў тару, дапускаецца толькі пры ўмове аддзялення іх бразентамі.

14. Перавозка мяса і мясапрадуктаў транспартнымі сродкамі, якія былі ў карыстанні пры перавозцы грузаў, якія маюць пах, без папярэдняй добрай ачысткі гэтых транспартных сродкаў—не дапускаецца.

15. Транспартныя сродкі, прадназначаныя для перавозкі мяса і мясапрадуктаў, штодзённа павінны падвяргацца добрай ачыстцы і прамыўцы.

16. Аўтамашыны і фургоны, спецыяльна прадназначаныя для перавозкі мяса і мясапрадуктаў, павінны мець санітарную кнігу, у якую заносяцца рэзультаты агляда транспарта сан. урачамі.

## IV. Прыёмка

17. Прыёмка мяса і мясапрадуктаў у магазіны праводзіцца дырэктарам магазіна або асобамі, спецыяльна вызначанымі ім для гэтай мэты.

18. Прыёмка мяса і мясапрадуктаў праводзіцца па колькасці месц, вазе і па якасці, прычым у першую чаргу праводзіцца зверка атрыманага тавара з данымі суправаджальных дакументаў.

19. У выпадку неадпаведнасці дастаўленых мяса і мясапрадуктаў даным суправаджальных дакументаў, прыёмшчыкам складаецца адпаведны акт з удзелам здатчыка і прадстаўніка проф. арганізацыі.

20. Недобраякасны або не адпавядаючы стандартам ці тэхнічным умовам (кандыцыям) тавар, магазінам не прымаецца. Пастаўшчык абавязан безадкладна даслаць недапастаўлены і замяніць забракаваны тавар.

21. Прынятыя магазінам мяса і мясапрадукты павінны быць неадкладна размешчаны ў падсобным памяшканні для хавання, а таксама ў гандлёвым зале магазіна для непасрэднага продажу.

## V. Хаванне

22. Падсобнае памяшканне магазіна не павінна атапліваццa, павінна быць безумоўна чыстым (з выбеленымі сценамі) і мець вентыляцыю.

23. У падсобным памяшканні павінны быць прыстасаванні для халоднага хавання мяса і мясапрадуктаў (ванны з ільдом і шафы-халадзільнікі); пры значных размерах магазіна павінна быць абсталявана камера з халадзільнай установкай, якая дастаткова для забеспячэння холадам данай загрузкі мясам і мясапрадуктамі.

Увага. У падсобных памяшканнях, абсталяваных ваннамі з ільдом ці шафай-халадзільнікам, тэрмін хавання мяса і мясапрадуктаў дапускаецца пры тэмпературы ад +5 да +7 градусаў Цэльсія да 2-х сутак, у камерах з халадзільнай установкай пры тэмпературы ад 0 градусаў да +2 градусаў Цэльсія—да 5 сутак.

У халадзільных камерах мяса і мясапрадукты павінны быць развешаны на спецыяльных жалезных лужоных круках, прычым развеска туш і поўтуш праводзіцца на адлегласці 10—15 сантыметраў адна ад другой для доступа паветра.

Дапускаецца ўкладка мяса і мясапрадуктаў на лёд з абавязковай, аднак, падсцілкай двухбаковай цараты.

## VI. Продаж

25. Тушы з падсобнага памяшкання паступаюць у гандлёвы зал у разрубленым відзе па паасобных гатунках.

26. Мяса і мясапрадукты, якія знаходзяцца ў гандлёвай зале магазіна, павінны раскладвацца:

а) буйныя пагатунковыя часткі мяса, а таксама каўбасныя вырабы і свінакапчонасці—на жалезных, лужоных круках, прымацаваных да сцяны, якая знаходзіцца за прылаўкам, або на паліцах і

б) мяса і мясапрадукты, якія падрыхтаваны да непасрэднага водпуску пакупніку—на прылаўках.

Сцяна за прылаўкам павінна быць абліцавана глянцавітымі пліткамі белага колера ці абіта ацынкаваным жалезам на вышыні ад падлогі да 2-х метраў. Прылавак павінен быць пакрыт мрамарам ці абіт ацынкаваным жалезам і мець зашклянены бар'ер.

27. Мяса раскладваецца на паліцах і прылаўках па відах жывёлы, па гатунках рознічнай разрубкі і па ўпітанасці з абазначэннем на ярлыках назвы мяса па відах жывёлы, гатунках, упітанасці і цане.

Увага. Ярлыкі на дротавых ці драўляных шпільках катэгарычна забараняецца прымацоўваць да прадуктаў. Ярлыкі прымацоўваюцца да спецыяльных падставак або да тары, у якой знаходзіцца тавар.

28. Для рэзкі каўбасы, ветчыны і іншых мясапрадуктаў у магазіне павінны быць спецыяльныя дошкі з плотнага цвёрдага дрэва без шчылін і вышчарбленых месц, якія ўтрымліваюцца ў чыстаце.

29. Для рубкі мяса магазін павінен мець спецыяльныя крэслы з дрэва, паверхня якіх павінна штодзённа добра зачышчацца.

30. Для збірання зачыстак, пупкоў, вяровак, шпагата, пломбаў і т. п. пад прылаўкам павінны быць скрынкі, абітыя знутры ацынкаваным жалезам і апаражняемыя не радзей аднаго раза ў дзень.

31. Для рубкі мяса магазін павінен мець неабходную колькасць сякер і тупіц, а таксама для рэзкі каўбасы і капчонасцей—неабходную колькасць спецыяльных нажоў.

Карыстацца гэтымі сякерамі, тупіцамі і нажамі для іншых мэт катэгарычна забараняецца.

32. Магазіны, якія гандлююць мясам і мясапрадуктамі, павінны быць забяспечаны мясарубкамі.

33. Пры водпуску пакупніку развеснага тавара цэльным кавалкам дапускаецца дабаўленне давеска не больш аднаго кавалка і не больш 10 проц. агульнай вагі заказа пакупніка, прычым давесак павінен адпавядаць гатунку і якасці адпускаемага тавара.

34. Пры водпуску пакупнікам каўбасных вырабаў і капчонасцей прадавец абавязан, па патрабаванню і ўказанню пакупніка, нарэзаць іх ломцікамі.

35. Пры водпуску пакупніку нерасфасаванага тавара нарэзка, разрубка, узважванне і іншыя аперацыі, а таксама і ўпакоўка праводзяцца на віду ў пакупніка.

36. Мяса, каўбасныя вырабы і свінакапчонасці адпускаюцца пакупнікам у абвёртачнай паперы.

37. Мяса—фарш прыгатаўляецца прадаўцом толькі па патрабаванню пакупніка і з мяса, якое выбрана пакупнікам. Папярэдняя загатоўка фарша для продажу не дапускаецца.

38. Водпуск пакупніку тавара праводзіцца чыстай вагой у зачышчаным відзе.

39. Водпуск пакупніку тавара праводзіцца без адыходаў (згодна спецыяльных інструкцый па падрыхтоўцы мяса і мясапрадуктаў у магазінах да продажу і аб нормах адыходаў па паказаных таварах).

40. Продаж мяса, не агледжанага ветэрынарным наглядам і не маючага ўстаноўленага кляйма, катэгарычна забараняецца.

## VII. Санітарнае ўтрыманне магазіна

41. Мясатавары на паліцах павінны занавешвацца чыстай марляй ці іншай лёгкай тканінай.

42. Увесь інструмент, якім карыстаюцца ў магазіне (нажы, тупіцы і т. п.), павінен штодзённа да пачатку гандля абмывацца гарачым содавым растворам і насуха выціраццa чыстым ручніком.

43. Штодзённа па сканчэнні гандля павінна быць праведзена поўная ўборка магазіна: мыццё шчоткамі,

гарачай вадой са шчолакам прылаўкаў, паліц, падлог, крэслаў для рубкі. Крэслы павінны быць зачышчаны скрэбкам і засыпаны соллю.

Увага. Для падмятання падлогі могуць скарыстоўвацца сырыя апілкі, якія, аднак, не могуць заставацца на падлозе ў якасці насціла.

44. Адзін раз у квартал у магазіне павінна праводзіцца дэзінфекцыя.

45. На працягу рабочага дня прадавец павінен сачыць за чыстатой рабочага месца і інвентара, які знаходзіцца пры ім.

46. Усе прадаўцы абавязаны штомесячна падвяргацца медычнаму агляду.

Новыя работнікі прымаюцца на работу ў магазін толькі пасля праходжання медычнага агляду.

47. Прадаўцы павінны стала сачыць за чыстатой рук і нагцей, каротка астрыгаючы апошнія. Пры рабоце прадаўцы павінны быць у чыстай сан. вопратцы. У магазіне павінна быць не менш трох камплектаў сан. вопраткі на кожнага прадаўца. Пры ўсякіх адлучках з месца работы сан. вопратка павінна знімацца.

48. У магазіне павінен быць умывальнік з мылам, ручнікам і шчоткай для рук.

49. У магазінах павінна весціся барацьба з мухамі і грызунамі.

50. Курыць у магазіне забараняецца, аб чым павінна быць вывешана аб'ява на відным месцы.

* * *

51. Гандлюючыя арганізацыі, у веданні якіх знаходзяцца магазіны, палаткі ці аддзяленні, гандлюючыя мясам і мясапрадуктамі, абавязаны давесці гэтыя правілы да ведама ўсіх работнікаў гэтых магазінаў, палатак і аддзяленняў.

# ЦЭНЫ

## Аб зніжэнні рознічных цэн на цукар і кандзіцерскія вырабы

### ПАСТАНОВА

**Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР**

12 снежня 1935 г. **№ 910** г. Менск

1. У адпаведнасці з радыёграмай Саюзнаркамунутгандля за № 7454, устанавіць з 16 снежня 1935 года новыя зніжаныя цэны на цукар.

| | За кг | | Замест раней існаваўш. | |
|---|---|---|---|---|
| Цукар пясок | 3 | 80 | 4 | 50 |
| Цукар рафінад-прэсаваны насып'ю, рафпудра, рафкрошка і дробна-колаты | 4 | — | 4 | 80 |
| Цукар рафінад колаты, галаўны, прэсаваны ў пачках, кавалкавы насып'ю | 4 | 10 | 4 | 90 |
| Цукар рафінад пілены ў пачках і марсельскі ў галоўках | 4 | 20 | 5 | — |

Скідку гандлюючым арганізацыям з рознічных цэн—захаваць у дзейнічаючых абсалютных размерах.

Пераацэнку фактычных астаткаў цукра ў магазінах, ларках, складах і ў шляху правесці на 16 снежня 1935 г. у прысутнасці прадстаўніка Гарфа за лік дзяржбюджэта.

2. У адпаведнасці са зніжэннем адпускных цэн на кандзіцерскія вырабы дзяржпрамысловасці, прапанаваць Белкаапромсовету і Белкаапінсаюзу зараз-жа прадставіць НКУГ БССР праект зніжаных цэн на кандзіцерскія вырабы, выпрацоўваемыя арцелямі вышэйпаказаных сістэм.

Народны Камісар Унутранага Гандля БССР
**Н. ГУРЭВІЧ**

## Новыя рознічныя цэны на мяса маладняка буйнай рагатай жывёлы

### РАСПАРАДЖЭННЕ ПА НАРКАМУНУТГАНДЛЮ БССР

19 снежня 1935 г. **№ 808** г. Менск

На падставе радыёграмы Саюзнаркамунутгандля № 128216:

1. Адмяніць існуючыя адзіныя рознічныя цэны на цяляціну звычайную, не малочную.

2. Устанавіць з 16-га снежня 1935 г. адзіную рознічную цану на мяса маладняка буйнай рагатай жывёлы ва ўзросце да 2-х год як цэнтралізаванага, так і дацэнтралізаванага фонда:

а) вышэй сярэдняй упітанасці:

| | |
|---|---|
| І-шы сорт | 8-65 |
| ІІ-гі „ | 6-65 |
| ІІІ-ці „ | 5-25 |
| ІV-ты „ | 1-00 |

б) сярэдняй упітанасці:

| | |
|---|---|
| І-шы сорт | 6-65 |
| ІІ-гі „ | 5-05 |
| ІІІ-ці „ | 3-95 |
| ІV-ты „ | 1-00 |

в) ніжэй сярэдняй упітанасці:

| | |
|---|---|
| І-шы сорт | 5-65 |
| ІІ-гі „ | 4-05 |
| ІІІ-ці „ | 2-95 |
| ІV-ты „ | 1-00 |

3. Пераацэнку правесці на аснове актаў, падпісаных загад. магазінам і прадстаўніком гандлюючай арганізацыі.

4. Розніцу ад пераацэнкі цэнтралізаванага фонда аднесці за рахунак дзяржбюджэта.

5. Абавязаць гандлюючыя арганізацыі вывесіць спецыяльныя аб'явы цэн на мяса маладняка ў магазінах.

6. Зацверджаны ўрадам стандарт на мяса маладняка буйнай рагатай жывёлы будзе паведамлен дадаткова.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. ГУРЭВІЧ**

# Рознічныя цэны на мандарыны паніжаны

## Горунутгандлям, Белхарчгандлю, Гастраному, Бакалеі, Горспажыўсаюзу, Белплодагародніне

На падставе тэлеграмы Саюзнаркамунутгандля № 15088 ад 11 снежня 1935 года ўвесці новыя паніжаныя рознічныя цэны на мандарыны ўраджая 1935 года:

| Гатунак | Чотка (знаходжанне ў адной скрыні штук) | Кольксць мандарын у адным кілограме | Новая рознічная цана за штуку ў капейках | Замест | існуючай |
|---|---|---|---|---|---|
| Вышэйшы . . . | 36—80 | 7—12 | 60 | 1 | — |
| I гатунак . . . | 100—120 | 14—20 | 40 | — | 60 |
| II гатунак . . . | 216 | 26—27 | 20 | — | 30 |
| III гатунак . . . | 310 | 39—40 | 10 | — | 15 |

Пераацэнку мандарын правесці 11 снежня 1935 г. Зняцце астаткаў правесці па актах, завяраемых загадчыкам магазінам і прадстаўнікам дырэкцыі ТОРГА, з удзелам прадстаўнікоў органаў Наркамфіна.

Аб парадку перараздіка з дзяржбюджэтам—будзе паведамлена дадаткова.

Нач. аддзела арганізацыі гандлёвай сеці
і рэгулявання цэн НКУГ БССР **КАМЯНЕЦКІ**

# Аб зніжэнні рознічных цэн на парафінавыя свечы

**ПАСТАНОВА**

**Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР**

9 снежня 1935 г. **№ 905** г. Менск

На падставе тэлеграмы Саюзнаркамунутгандля № 15070 аб зніжэнні рознічных цэн на парафінавыя свечы,—Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР пастанаўляе:

1. Знізіць адзіныя рознічныя цэны на парафінавыя свечы белага парафіна з 9 руб. да 7 руб. 60 кап. за кгр.

2. Устанавіць на парафінавыя свечы жоўтага парафіна адзіную рознічную цану—5 р. 60 кап. за кгр.

3. Адзіную рознічную цану на стэарынавыя свечы—заставіць існуючую—9 руб. за кгр.

Гэтыя цэны распаўсюджваюцца на свечы, выпрацоўваемыя дзяржпрамысловасцю.

Гандлёвую скідку на парафінавыя і стэарынавыя свечы—устанавіць 49 кап. за кгр.

Пераацэнку астаткаў правесці на падставе актаў зняцця таварных астаткаў, завераных: па дзяржгандлю—заг. магазінам і прадстаўнікам дырэкцыі ТОРГА, па спажывецкай кааперацыі—заг. магазінам і членам Рэвкамісіі ЗРК, Сельпо. Па ОРС'у—прадстаўнікам рабочага кантроля і заг. магазінам.

Розніцу ад пераацэнкі аднесці за рахунак дзяржбюджэта.

Гэтыя цэны ўвесці ў дзеянне з 16/XII—1935 года.

Нарком Унутранага Гандля БССР
**Н. ГУРЭВІЧ**

# АДПУСКНЫЯ ЦЭНЫ НА ПІРОЖНЫЯ ВЫПРАЦОЎКІ БЕЛХАРЧПРОМСАЮЗА

**ПАСТАНОВА**

**Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР**

8 снежня 1935 г. **№ 901** г. Менск

1. Устанавіць аптова-адпускныя цэны на піронныя, выпрацоўваемыя арцелямі Белхарчпромсаюза, згодна прыкладаемых рэцэптур—10 р. 80 к. за кгр.

2. Абавязаць Белпромхарчсаюз забяспечыць водпуск на адным лісце поўны асартымент з наступных пірожных: заварныя, пясочныя, хлебныя, безе і інш. у роўнай меры, прычым пірожныя павінны выпякацца ў 50, 75 і 100 грам.

Паказаныя цэны ўвесці ў дзеянне з 10 снежня 1935 г.

Народны Камісар Унутранага Гандля БССР
**Н. ГУРЭВІЧ**

# СПРОС И ПРЕДЛОЖЕНИЕ ТОВАРОВ

**Бюро спроса и предложения товаров при Наркомвнуторге БССР**

г. Минск, Советская ул., Дом Правительства, левое крыло, 4-й этаж, комн. 415, тел. 22-540. Адрес для телеграмм—МИНСК, БЕЛТОВАРБЮРО, тек. сч. в Белорусской Конторе Госбанка № 160/10076.

# ПРЕДЛОЖЕНИЕ ТОВАРОВ

## Пищевкусовая группа

Искусственный паточный мед, сахаристостью 50 проц., плотность по Боме 38 град., жидкий, I сорта—50 тонн—2 350 руб. тонна, франко-склад продавца. Тара—бочки за счет покупателя по цене СТО. Отгрузка декабрь—I-й квартал 1936 года. Расчет акцептом.

Искусственный паточный медок—90 тонн. Тара—бочки продавца за счет покупателя. Цена франко-склад продавца—2 250 руб. тонна. Отгрузка—декабрь 1935 г.—январь 1936 года. Расчет акцептом.

Повидло яблочное — 100 тонн, сахаристость 50—55 проц., влажность—35 проц., тара—бочки—по ценам СТО за счет покупателя. Франко-склад продавца за тонну—3 600 руб. Отгрузка—декабрь—первый квартал 1936 года, расчет акцептом.

Яблочное варенье (яблоки в сиропе)—100 тонн, сахаристость—60 проц., тара — бочки по ценам СТО за счет покупателя. Цена франко-завод утвержден. НКВТ СССР для I-го пояса за тонну—4 200 р., II пояса—4 400 р., III пояса — 4 500 р., IV пояса—4 800 р. Отгрузка вагонами—от 8—10 тонн в 1-м квартале 1936 г. Расчет акцептом.

Соки брусничные—10 000 декалитров, клюквенные—10 000 декалитров, яблочные—10 000 декалитров, франко-завод продавца; брусничные—25 р. 20 к., клюквенные—24 р. 30 к., яблочные—18 р. Отгрузка—декабрь—I-й квартал 1936 года.



## Лесо-химическая группа

Гуталин скипидарный—черный, желтый в стеклянных плоских 30-тиграммовых банках—12 000 десятков — 2 р. 90 к. десяток+50 проц. госбюджетной наценки.

Галипот безводный—30 тонн, годен для выработки коломази. Цена франко-производство — 925 руб. тонна+доставка 120 р. с тонны. Отгрузка в декабре. Тара за счет покупателя по ценам СТО. Расчет аккредитивом.

Лак асфальтовый годный для покрытия грубых жел. конструкций—котлов, труб и др.—30 тонн—719 руб. 50 коп. тонна. Отгрузка в декабре. Расчет аккредитивом и акцептом.

Коломазь-галипот — 400 тонн—франко-производство—391р. 70 к. тонна.

Олифа искусственная — отгрузка в декабре—20 т., в 1936 г.—50 тонн. Франко - производство—2443 р. тонна.

Клей бомасса, лак асфальтовый, смола строительная, пек специал. Клейбомасса—25 тонн по 341р. 50 к. тонна, франко-производство. Лак асфальтовый—25 тонн по цене 719 р. 50 к. Смола строительная—40 тонн по цене 501 р. 16 к. тонна. Пек—25 тонн, по цене 405 руб. тонна. Расчет акцептом.

Лак асфальтовый—50 тонн I-го сорта, франко-производство—1150 руб. тонна, отгрузка—1936 год. Расчет акцептом.

Сургуч в палочках красный, доброкачественный, цена франко-склад продавца—2 250 руб. тонна. Сургуч в количестве 10 000 кгр. Отгрузка в декабре, расчет акцептом.

Обруч ореховый, размер 142 и 178 сантиметров, негнутый—100 000—по цене 50 р. тысяча—142 *см* и 60 руб. тысяча—178 *см.* Отгрузка равными партиями в течение 1936 года.

Метлы березовые—800 000 штук—20 коп. штука, франко-производство; отгрузка в 1936 году.

Уголь древесный сосновый с допущением засоренности мелким углем и угольной пылью до 10 проц.—500 тонн—220 р. тонна франко-вагон станция отправления. Тара—в рогожных кулях за счет покупателя по себестоимости продавца. Отгрузка—в первом квартале 1936 года. Расчет акцептом.

## Тара

Корзины лозовые багажные, рядовое плетение—1000 штук по ценам Конвенцбюро СНК, франко-склад продавца: 90 *см*—26 р. 72 к., 72 *см*—16 р. 74 к., 63 *см*—15 р. 05 к.

Корзины багажные—белого прута, густота плетения—4 000 шт. по цене франко-производство—12 вершков—11 р. 92 к., 14 вершк. 13 р. 84 к., 16 вершк.—16 р. 18 к., 18 вершк.—18 р. 20 к., 20 вершк.—22 р. 52 к. Отгрузка—в декабре—500 штук, остальные—в 1936 году. Расчет акцептом.

Корзины лозовые—дорожные—72 шт. 54×34 *см* по цене 15 р. 90 к. штука, 62×36 *см*—166 штук—18 р. 35 к., 68×38 *см*—127 шт.—21 р. 71 к., 80×14 *см*—20 штук—25 р. 17 к., 90×18 *см*—12 шт.—89 р. 35 к. К указанным ценам прибавляется 15 проц. бюджетной наценки. Срок отгрузки—декабрь 1935 г. Расчет акцептом.

## Промтоварная группа

Цепи Галля—10 000 метров по 22 р. за пог. метр, цепи велосипедные—3 000 метров по 6 р. 50 к. за метр франко-склад производства. Отгрузка в декабре с. г. Расчет акцептом.

Винтовки „ТОЗ“ № 8 мелкокалиберные—1275 шт.—по 92 руб.+5 проц., тоже № 3—пневматические—57 штук по 68 р. 04 коп.+5 проц. Отгрузка немедленная, расчет акцептом.

Седелки стоячие—2 000 шт.—6 р. штука, франко-склад продавца.

Вожжи тесемочные—2 000 штук, длина 8—9 метров, концы подшиты кожей, цена франко-склад продавца—7 р. 70 к. штука. Отгрузка—в декабре с. г. Расчет акцептом.

Вата хлопчато-бумажная серая II сорта—75 т. по цене 2 470 р. тонна, тоже серая—75 тонн—III сорта—по 2 000 р. за тонну. Отгрузка ежемесячно по 12,5 тонны. Расчет акцептом.

Чуни пенько-льняные—140 тыс. пар—3 р. 50 к. пара, франко-склад продавца. Расчет акцептом.

Фанерные чемоданы—3 000 штук, размер 70 *см* по цене 11 р. 76 к. штука, 60 *см*—10 р. 53 к. штука, 50 *см*—9 р. 35 к. штука и 43 *см*—7 р. 99 к.+госбюджетная наценка—15 проц. и орграсходы—1 проц. Чемоданы отпускаются в количестве не меньше одного вагона—500—600 штук. Отгрузка в фев... Расчет акцептом.

Спатри узорная—белая, свежая,—5 000 листов по цене 1 р. 54 к. за лист. Расчет акцептом. Отгрузка в декабре и в I-м квартале.

## СПРОС ТОВАРОВ

Яблоки крымские, тюлька маринованая и соленая, судак, сельди разные, рыба свежая мороженая, орехи буковые и фисташки, чернослив сушеный, урюк, сабза, лавровый лист, папиросы всех сортов, питьевая сода, мак, пряники багдадские, тоже саксонские, клей столярный сухой в плитках, бумага всех видов, картон, краски анилиновые, скипидар красный, лоза белая и лозовые белые палки, рукавицы утильные, пакля строительная, смольная пряд... ветошь, вата белая I-го сорта.

Выданне Наркамунутгандля БССР—Дом Урада, 4-й паверх, пак. 405, тэл. 23-287.

Адк. рэдактар I. I. Верба. Адк. сакратар рэдакцыі В. Адлерштэйн.

Школа ФЗВ друкарні ім. Сталіна. Зак. 1463. Тыраж 750 экз. Галоўлітбел № 5014.